**№21 (21)**
24 кастрычніка 1995 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Кошт у розніцу — 700 руб.



Газета сверстана
на компьютерах
"ЛИНТЕК"

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



## Вы — з "Народнай воляй", а "Народная воля" — з Вамі!

### *Минск, редакции газеты "Народная воля"*

### Телеграмма солидарности

Спасибо за прекрасную газету. Ждем ее. Не сдавайтесь. Правду не задавить, как бы кому-то этого ни хотелось.

**О.Д.ИГНАТОВИЧ,**
**г.Брест.**

## Пастанова

### Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека

*ад 18 кастрычніка 1995 г.*

11 кастрычніка г.г. не выйшаў у свет чарговы нумар незалежнай газеты "Народная воля". Чытач не атрымаў газету па прычынах, не залежачых ад яе рэдакцыйнага калектыву.

У заяве, адрасаванай Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, галоўны рэдактар газеты "Народная воля", дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Іосіф Сярэдзіч паведаміў наступнае: тыражаваць нумар газеты адмовілася друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", з якой рэдакцыяй быў заключаны адпаведны дагавор; кіраўніцтва выдавецтва матывуе скасаванне дагавора распараджэннем начальніка Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта У.Замяталіна і экспертным заключэннем Міністэрства юстыцыі, згодна з якім газета нібыта парушыла Закон аб друку.

Камісія разгледзела пытанне аб адміністрацыйных санкцыях супраць газеты "Народная воля" (падобныя захады зроблены і ў дачыненні да "Белорусской деловой газеты" і газеты "Имя"), пазнаёмілася з заключэннем Міністэрства юстыцыі, якое як быццам бы стала падставай для анулявання Беларускім Домам друку дагавора з рэдакцыяй "Народнай волі", і прыйшла да наступных высноў:

1. Рэдакцыя газеты "Народная воля" не парушыла ні адзін з пунктаў артыкула 5 Закона аб друку, у якім ідзе размова аб недапушчальнасці злоўжывання свабодай масавай інфармацыі, пералічваюцца выпадкі, калі выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца неправамерным. З другога боку, артыкул 16 Закона адназначна гаворыць аб тым, што "дзейнасць сродку масавай інфармацыі можа быць прыпынена ці спынена толькі па рашэнню заснавальніка або судом у парадку грамадзянскага судаводства па іску рэгіструючага органа ці пракурора" і што нават "заснавальнік мае права прыпыніць ці спыніць дзейнасць сродку масавай інфармацыі выключна ў выпадках, прадугледжаных статутам рэдакцыі ці дагаворам паміж заснавальнікам і рэдакцыяй (галоўным рэдактарам)".

Інакш кажучы, Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі, які ўступіў у дзеянне ў студзені 1995 г., рэдакцыяй газеты "Народная воля" не парушаны.

2. Камісія лічыць, што грамадзяне Беларусі маюць права ў поўным аб'ёме, згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, выказваць свабоду поглядаў і перакананняў, а таксама на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці.

3. Камісія адзначае, што сёння, ва ўмовах пераходнага перыяду, палітычных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў і ўсталявання дэмакратычных інстытутаў, важную ролю закліканы адыграць сродкі масавай інфармацыі. Без свабоднага, незалежнага, дэмакратычнага друку рэспубліка не зможа стаць свабоднай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай. Камісія падзяляе нядаўнюю заяву старшыні Канстытуцыйнага суда В.Г.Ціхіні, які падкрэсліў, што "дзяржаўная ўлада павінна дазволіць крытыкаваць сябе, свае інстытуты і службовых асоб, павінна ахоўваць права на іншадумства".

У гэтай сувязі камісія асуджае — як супрацьзаконныя, антыканстытуцыйныя — спробы з чыйго бы ні было боку ўмешвацца ў дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі.

**Старшыня камісіі**
**С.ДАВІДОВІЧ.**

## 5586 безработных зарегистрировано в Могилеве

По прогнозам, в ближайшие месяцы лишатся работы еще более восьмисот человек — работники АП "Моготекс", ООО "Торговый центр", завода "Технoприбор" и других предприятий.

Вдвойне прискорбно, что не могут найти работу выпускники могилевских вузов. Например, на одну вакансию инженера-технолога претендуют 120 человек. Мало шансов устроиться на работу по специальности также у педагогов и воспитателей.

**Александр**
**АЛЕКСАНДРОВИЧ,**
**БелаПАН.**

## Мытня — падсечаны сук беларускага бюджэту

Як паведаміў журналістам на сваёй першай прэс-канферэнцыі ў Брэсце начальнік мытні "Заходні Буг" Вячаслаў Асінцаў, за дзевяць месяцаў гэтага года толькі падначаленая яму мытня пералічыла ў бюджэт дзяржавы 151 мільярд рублёў, а штодзённыя паступленні цяпер складаюць 25—30 тысяч долараў.

Ён жа заўважыў, што з-за ўвядзення новых мытных правілаў увоз аўтамабіляў на тэрыторыю рэспублікі зведзены да нуля і што на гэтым новаўвядзенні мы страцілі мільёны долараў, так неабходных нашаму дзіраваму бюджэту.

Было таксама заяўлена, што з 1 кастрычніка на мытні "Заходні Буг" прыступіў да работы пастаянны прадстаўнік Расіі. Ён будзе каардынаваць работу беларускіх мытнікаў.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**уласны карэспандэнт**
**"Народнай волі"**
**па Брэсцкай вобласці.**

## Брэст настроены песімістычна. Але на выбары пойдзе

Мяркуючы па выніках ананімнага апытання 200 брэстаўчан, якое правяла сацыялагічная група "Шчырасць" кафедры сацыялогіі, паліталогіі і права Брэсцкага дзяржуніверсітэта, большасць жыхароў прыгранічнага абласнога цэнтра лічаць, што паварот да лепшага ў нашым жыцці ўжо немагчымы, што пасля абрання прэзідэнта становішча ў краіне пагоршылася і што яны не давяраюць "усенароднаабранаму", што будуць удзельнічаць у дадатковых выбарах у Вярхоўны Савет і прагаласуюць або за камуністаў (16,5%), або за БНФ (9,5%), але падтрымліваць кандыдатаў збіраюцца ў асноўным па асабістых якасцях, а не па партыйнай прыналежнасці.

**Кастусь АНАНІЧ.**

## Забастоўшчыкі не хочуць чырванець перад сваімі дзецьмі



— Ой, колькі мне прыйшлося перажыць у тыя жнівеньскія дні, — расказвае Вольга Нікіціна, жонка аднаго з 26 работнікаў Мінскага метрапалітэна, звольненых за ўдзел у забастоўцы. — Муж тады амаль не начаваў дома. Прыйдзе, пераапранецца, падсілкуецца і зноў да сваіх. Знікае, быццам у бездань. Не ведаеш: вернецца ці не.

— Я толькі тры дні як вярнулася з нашым Васілём з радзільнага дома, — маладая жанчына інстынктыўна прыціснула да сябе мерна пасапваючы "скрутачак". — Муж казаў, што на метрапалітэне справа ідзе да забастоўкі. Не верылася, хацелася спадзявацца, што абыдзецца ціха і мірна. Не выйшла.

Увечары 21 жніўня ў тэлевізійных навінах убачыла сюжэт пра падзеі на метрапалітэне і абурылася: адкуль яны ўзялі такія сумы грошай. Муж адвеку не прыносіў дахаты такіх грошай. А позна ўвечары з Веткі пазваніла Сашына маці. Галосіць, што ж ты нарабіў, мой сыночак, навошта палез у гэтае пекла. Я ад хвалявання ледзь малако не згубіла.

А потым Сашу звольнілі па артыкулу, з усёй брыгады дыстанцыі тунэльных збудаванняў звольнілі аднаго. Маўляў, не змог (ён працуе брыгадзірам) арганізаваць работу брыгады. І пачаліся ўсе суровыя мітрэнгі, якія працягваюцца да сённяшняга часу.

Канешне, перажыць прыйшлося шмат. Начамі не спала. Але папракаць мужа не паварочваецца язык. Значыць, так было трэба.

Мне самой аднойчы прыйшлося перажыць падобнае. Роўна два гады таму, у кастрычніку 1993 года, забаставала мінская школа-гімназія N 208, дзе я працавала настаўніцай пачатковых класаў.

Калі падрасла Кацюша, выйшла з дэкрэту. Толькі пачала ўцягвацца ў рабочы рытм, а тут забастоўка. Нічога, баставала разам з усімі.

Але хутка скончылася наша выступленне. Абяцаннямі, пагрозамі начальства прымусіла жанчын-педагогаў выйсці на работу. Ды і мэтазгоднасці працягваць забастоўку не было, бо мы фактычна засталіся адны. Педагагічныя калектывы Мінска на словах падтрымалі наша выступленне, але ж толькі на словах.

Гэта, так бы мовіць, быў мой першы ўдзел у забастоўцы. Цяпер "бастую" ўжо другі раз, — горка ўсміхнулася Вольга. — На гэты раз ужо з мужам. І не шкадую, што лёс падкінуў нам такое выпрабаванне. Бо не прыйдзецца чырванець перад сваімі дзецьмі...

**Ігар ХОМІЧ.**

**На здымку: сям'я Нікіціных у поўным складзе.**
**Фота Ігара МАКАЛОВІЧА.**

## Чарговы віцебскі маньяк карыстаецца тым, што вуліцы горада практычна не асвятляюцца

**"Не эканомце на жыцці нашых дзяцей!" — патрабуюць ад улад Віцебска сотні бацькоў, чые малечы вучацца ў другую змену і вяртаюцца дадому па цёмных вуліцах горада.**

Днямі УУС Віцебскага аблвыканкама абнародавала фотаробат і апісанне прыкмет чарговага выродка, чыімі ахвярамі становяцца даверлівыя дзеці. Віцебская дзятва папярэджана аб неабходнасці быць вельмі асцярожнымі з любым малазнаёмым чалавекам. За месяц да выбараў над горадам лунае страх і туга па "цвёрдай руцэ".

**Леў КАМЕНСКІ,**
**БелаПАН.**

## Дзелавая размова будзе прадоўжана ў Вашынгтоне

**З 4 па 7 снежня ў Вашынгтоне адбудзецца другое пасяджэнне Беларуска-амерыканскага камітэта па развіццю дзелавога супрацоўніцтва.**

Па звестках, атрыманых карэспандэнтам БелТА ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей рэспублікі, з нашага боку прапанавана ўключыць у парадак дня пытанні па пашырэнню гандлю і інвестыцый, праблемы фінансавання, канверсіі прадпрыемстваў абароннай прамысловасці, а таксама ўмацавання супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі ў галіне экспартнага кантролю, сельскай гаспадаркі і другіх сферах дзейнасці.

**БелТА.**

## Чиновники не хотят "просвечиваться"

**В последние дни участились конфликты между госчиновниками, работающими в Доме правительства, и службой охраны здания.**

Служащие не понимают: зачем каждый день их "просвечивают", пропуская через специальный экран. "Не могу же я нести на свое рабочее место бомбу", — возмущалась милиционерам одна ответственная работница. — Да и кого тут взрывать?" Многие госчиновники считают, что ежедневное "просвечивание" может отрицательно сказаться на здоровье.

Не знаем, вредно ли "просвечивание", но, похоже, психоз подозрительности охватил все этажи власти.

**Константин БЕЛОУСОВ.**

## Новаму магілёўскаму мэру прыйдзецца выпраўляць памылкі ранейшага кіраўніцтва

Тры гады таму Магілёўскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб будаўніцтве катэджаў у прыродаахоўнай зоне прыгарада. Будаваліся там, зразумела, не простыя смяротныя. І вось прыродаахоўнай пракуратурай завершана следства, а выконваючым абавязкі Генеральнага пракурора краіны прапанавана магілёўскаму мэру Дзмітрыю Сівіцкаму адмяніць незаконныя рашэнні гарвыканкама, а грамадзянам-"таварышам" пакрыць выдаткі на будаўніцтва згодна з заканадаўствам.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## Шведскія насенняводы распачалі захоп беларускіх земляў

Калгас "Чырвоная звязда" першым у Іванаўскім раёне выканаў дзяржзаказ на пастаўку перапрацоўшчыкам цукровых буракоў (ён складае 2000 тон) і цяпер працуе ў лік перавыканання. Пакінуўшы астатнія гаспадаркі далёка ззаду, ён збірае з кожнага гектара больш за 300 ц карэнняў. Для параўнання: летась гэтая лічба была тут значна меншая — 225 ц з гектара.

Што ж здарылася? Буракі ў "Чырвонай звяздзе" пачалі расці па законах "рынкавага сацыялізму"? Магчыма, калі пад гэтым паняццем мець на ўвазе наш сацыялізм і шведскі рынак, бо якраз дзякуючы насенню шведскай фірмы "Хіллесёг" калгас выйшаў на такую высокую ўраджайнасць.

Напачатку кастрычніка гэтага года заходнія насенняводы арганізавалі ў "заваяванай" гаспадарцы семінар для старшынь і спецыялістаў калгасаў, дзе прапагандавалі сваю прадукцыю. Жадаючых абзавесціся ёю аказалася многа. Хутка шведы будуць завальваць нас насеннем буракоў, а мы самі сябе — цукрам.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ.**

*Семен БУКЧИН:*

# "Свобода печати — лучшее устрашение для негодяев, честолюбцев и деспотов"

Когда читаешь рассуждения наших публицистов о причинах нынешних гонений на печать, невольно ловишь себя на мысли: все это было, было, было... И добрый и справедливый царь якобы не знает, что творят его бояре. И напротив — знает и негласно потакает. И бояре, приставленные к цензурному делу, вроде бы неглупые люди, но ведь зачем-то делают пакостную работу.

Одни пытаются убедить царя: ну пойми же, мы же хорошие, вся наша критика — тебе только на пользу. Другие используют всю силу сарказма, иронии, разнообразные средства сатиры, чтобы уничтожить главного цензурного боярина. Третьи ведут хитроумно-запутанные диалоги, пытаясь выяснить тайную фактическую и психологическую подоплеку похода власти против прессы и входя в такую словесную эквилибристику, из которой подчас самим трудно выбраться.

Послушаем еще одного агитатора за свободу прессы. Эта речь прозвучала немногим более двухсот лет тому назад. Ее произнес во время суда, приговорившего его к гильотине, Камилл Демулен, молодой, горячий, романтичный журналист, первый публицист Франции эпохи Великой революции, "человек Бастилии", поднявший Париж на восстание, инициатор 14 июля, которое французы отмечают как день своего национального рождения.

Итак, март 1794 года, Париж, заседание Революционного Трибунала, слово, последнее слово депутату Конвента, "первому республиканцу", блестящему журналисту, обвиненному в "измене революции", Камиллу Демулену:

— Чем отличается республика от монархии? Одним: свободой писать и говорить. Пусть завтра свобода прессы будет в Москве, и Москва завтра будет республиканской! И это верно. Несмотря на Людовика XVI, несмотря на его правительство, правительство заговорщиков против народа, несмотря на все интриги роялистов, свободы печати, только свобода печати привела нас к 10 августа и разрушила 15-вековую монархию почти без пролития крови. Какая лучшая защита свободного народа от покушений деспотизма? Свобода печати. А еще лучшее средство? Свобода печати. А еще лучшее прибежище? Свобода печати. Кому не ясно, что свобода печати лучшее устрашение для негодяев, для честолюбцев, для деспотов, — но что она не несет с собой никаких неудобств для народного блага. Бояться, что свобода печати опасна для республики, — это так же глупо, как если бы кто-нибудь сказал, что красота может бояться зеркала. Человек ошибается или человек прав. Человек справедлив, добродетелен, патриот, — или он ни то, ни другое, ни третье. Если человек не прав, он должен исправиться. И для этого необходимо, чтобы журналы указывали вам ваши ошибки. Но если вы добродетельны, чего же вам бояться журналов, говорящих о несправедливостях, о пороках, против тирании? Это не ваше зеркало.

Ну и что? Убедили кого-нибудь эти речи? Суд воспользовался декретом Конвента: "Если обвиняемые позволяют себе оскорблять суд, они лишаются слова". На эшафоте Демулен бился и кричал:

— Да ведь это я! Я! Камилл Демулен! Я! "Человек Бастилии"! Я поднял Париж! Я! "Человек двенадцатого июля"!

Толпа смеялась над своим недавним кумиром. Во время террора, "закрывшего" Великую французскую революцию, было казнено двадцать пять журналистов.

Ну и к чему эти аналогии? — спросит уже никому и ничему не верящий читатель. Слава Богу, в Минске пока гильотину не строят. Пока, действительно, не строят. Но признаки подготовки налицо. История не обманывает: когда наступает реакция, власть прежде всего принимается за печать. Большевики начали закрывать газеты с мая 1918 года, когда заработал Революционный трибунал печати. Поэтому оставим "глубокую философию": реформы, демократия, суверенность, "четвертая власть" и почему так глупо поступают вроде бы не совсем глупые люди...

Посмотрим правде в глаза. Идет колоссальный передел собственности. Той, что раньше называлась у нас государственной, общенародной. Этому и только этому процессу подчинено все, что происходит на нынешнем постсоветском пространстве. То же происходило и во Франции двести лет назад. Пришли "новые французы" — торговцы, промышленники, банкиры. Потом им понадобилась "свобода печати". А пока — пожалуйте на эшафот. Что поделаешь — переходная эпоха...

Сегодня свободная печать ни в России, ни в Беларуси не нужна. Она — девка, работающая по вызову. Надо что-то "демократическое" продемонстрировать Западу, чтобы вытянуть лишний миллион долларов ("а то наши бомбы и АЭС начнут взрываться и падать на ваши буржуазные лужайки"), девку вызывают, демонстрируют. Не надо — мордой об асфальт.

Конечно, конечно, Россия с точки зрения журналистской прямо-таки царство свободы. Куда нам до нее... Но так кажется только потому, что драка в России за ту же собственность не чета нашей — космическая, пирог-то необъятный и жирнющий. Потому и стреляют и убивают соответственно масштабам. А наша Беларусь — это просто кусок, который, как простодушно объяснил император московским интервьюерам, надо прожевать и проглотить. Но штука в том, что жевать будут императорские зубы. А вот глотать пережеванное, подготовленное придут другие люди. Поскольку и сам император, и служащий при нем цензурный боярин, и прочая челядь — это белорусские пешки в большой российской игре, где вешают на них, как на туземцев, разные побрякушки, вроде "золотых" и "серебряных витязей".

Свобода печати в этой игре — всего лишь разменный товар не самой большой цены. Демулен кричал: "Пусть завтра свобода печати будет в Москве, и завтра Москва станет республиканской. Вероятно, Москва представлялась "первому республиканцу" Франции такой тоталитарной глухоманью, что само сочетание "свобода печати" и "Москва" выглядело фантастическим. Бедный Демулен не знал, конечно, что в 1794 году в Москве выходила одна газета ("Московские ведомости") и один журнал с замечательным названием — "Приятное и полезное препровождение времени". Свобода печати была полной, можно сказать, девственной, если учитывать к тому же, что Радищев был в ссылке, а Новиков сидел в Шлиссельбургской крепости.

Но вот парадокс истории: Екатерина II ссылала и сажала в крепости неугодных писателей и журналистов, а вошла в историю как просвещенная монархиня. Может, и наш надеется, хотя и не состоит в переписке с каким-нибудь современным Вольтером. Вместо Вольтера у нашего Титенков. А на роль Дидро, конечно, претендует г-н Заметалин. Дидро лично убеждал российскую императрицу в необходимости прогрессивных социально-политических реформ. А г-н Заметалин уже их проводит в Беларуси.

Впрочем, вернемся к замечательному высказыванию Демулена о Москве и свободе печати. Сейчас в Москве не два издания, как в 1794 г., а, наверное, добрая сотня, если не больше. И что же? Стала Москва республиканской? Московский политолог Д.Ольшанский в интервью газете "Имя" говорит о российской демократии: "На самом деле существует достаточно авторитарный режим, власть чиновничества и полицейского аппарата..."

Но если благородный и наивный Камилл Демулен двести лет назад мог ошибаться, то мы не имеем на это права. Имея такой исторический опыт. Если завтра батькины холуи без всяких ухищрений (какие-то письма в Минюст, якобы нарушения Конституции и прочей дребедени, призванной играть роль дымовой завесы) закроют все издания, кроме рептильных, никто и пальцем не пошевелит. Народ не выйдет на площади. И не потому, что он плох, наш народ. Он просто таков, каков он есть. Нельзя бесконечно мучить и давить и при этом повторять: "Народ бессмертен". Народы смертны, как и все живое в природе. Я не ставлю диагноз. Я говорю о сегодняшней ситуации, когда общественная апатия очевидна.

Можно, конечно, пускать умиленные слюни, печатать заявления, вроде того, что "дорогие читатели, вы нам очень нужны, мы без вас, а вы без нас не сможете". Сможем. Будет выходить одна "правильная" газета и работать телевизор с песнями и даже американскими фильмами. Все это очень хорошо описал Оруэлл в известном романе.

Посмотрим правде в глаза. Мы, журналисты, сегодня никому не нужны, кроме самих себя и, наверное, наших издателей. Журналистика, как явление, в белорусском обществе не востребована. Да, газеты покупают. Но могут и не покупать. Бывают же у нас выходные с праздниками по четыре дня, когда Дом печати и почта "гуляют", и в этот период в нашей тьмутаракани, как в хорошей африканской глубинке, газеты не выходят. Православный народ гуляет, ему не до газет. Почему бы не продлить эту приятную менопаузу на месяц, потом на год? Привыкнем... А потом и набедренные повязки натянем... Кому шкур не достанется...

Культура наращивается веками. Одичание происходит за несколько лет. Журналистика — это не политика, не экономика (хотя связи здесь несомненны). Это прежде всего — громадная часть человеческой культуры. К ней, к культуре, взывал двести лет назад Камилл Демулен, называя ее свободой печати. Он докричался много-много лет спустя. Французская печать свободна, хотя и она не без греха, потому что все газеты на чьи-то деньги издаются. Но это уже проблемы другого уровня.

Так что же нам, белорусам, ждать двести лет? Пока созреем... Но ведь в народе говорят: "Пока солнышко взойдет — роса очи выест". У нас это выедание идет полным ходом...

## Старшыню аблсавета пазбавілі службовага транспарту

**Хто пазбавіў, пакуль што невядома.**

Вядома толькі, што 10 кастрычніка каля 18 гадзін беласнежная "BMW-525" кіраўніка Брэсцкага абласнога Савета Віктара Бурскага стаяла каля пад'езда дома N 1 па вул. Ленінградскай, а праз паўгадзіны знікла ў невядомым напрамку.

Паводле звестак міліцыі, аўтамабіль быў аснашчаны радыётэлефонам.

На пошук зладзеяў кінуты лепшыя крыміналісты Брэста. Аб выніках іх работы мы паведамім у наступных нумарах газеты.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ, уласны карэспандэнт "Народнай волі" па Брэсцкай вобласці.**

## Рост колькасці крадзяжоў адзначаны на Брэстчыне

Колькасць крадзяжоў асабістай і грамадскай маёмасці на Брэстчыне ў першыя тыдні кастрычніка павялічылася амаль у паўтара раза ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Прычым, крадуць не толькі тое, што "дрэнна ляжыць", але і тое, што ляжыць добра і, здавалася б, надзейна. У Баранавічах, напрыклад, з гаража прыватнага прадпрымальніка невядомыя забралі 41 скураную куртку і нямала іншых каштоўных рэчаў, прызначаных для продажу. Злодзеі праніклі ў гараж праз дах. А адзінокі пенсіянер з Брэста звярнуўся ў міліцыю з заявай пра тое, што ў яго з падвала выкрадзена... пяць мяхоў бульбы.

У Століне з пляцоўкі мясцовага аўтавакзала сярод белага дня быў выкрадзены... аўтобус. Праўда, далёка з'ехаць не ўдалося. Злодзеям-угоншчыкам аказаўся нідзе не працуючы жыхар вёскі Турскае Столінскага раёна, які быў на добрым падпітку.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## Пінскі тэлеплюралізм

**У Пінску, горадзе са 130-тысячным насельніцтвам, пачала работу ўласная незалежная тэлерадыёкампанія "Вараг".**

Яе перадачы папулярныя не толькі ў Пінску, але і ў суседніх раёнах, куды даходзяць эфірныя хвалі.

Калі чалавеку надакучвае палітыка з яе нуднымі маналогамі, дыялогамі, ён ужо не выключае ў роспачы "скрынку", а пераключае яе на канал "Вараг", дзе пачуе песню з чарговага віншавання, паглядзіць відэакліп або дэтэктыў ці камедыю.

Да таго ж тэлерадыёкампанія мае штотыднёвую інфармацыйна-рэкламную газету "Вараг-Прэс".

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ, уласны карэспандэнт "Народнай волі" па Брэсцкай вобласці.**

**Осторожно: грабитель — государство**

# Заветы Бендера живут и побеждают

Известный герой Остап Бендер преуспел "по честному отъему денег у трудящихся".Однако наше государство его в этом давно переплюнуло. Вот пример. Несколько лет назад, с введением в строй второй линии метро с конечной станцией "Тракторный завод" "ополовинили" маршруты автобусов NN 16 и 50. Если раньше эти весьма популярные маршруты подвозили людей из микрорайонов Ангарская и Серебрянка до центра белорусской столицы, а именно до пл.Я.Коласа, то с введением новой линии метро они следуют только до тракторного завода. Но людям же нужно попадать на работу. Вот и приходится пересаживаться на иной вид транспорта, а значит, снова платить за проезд. И вместо одноразовой оплаты от места жительства до пункта назначения пришлось выкладывать двойную стоимость проезда. Ну, поворчали люди маленько, да и постепенно забыли об этом. Зато государство не забыло. Скорее наоборот: оно решило, что эксперимент закончился весьма удачно и поэтому его следует повторить и расширить.

Долгожданное продление второй линии метрополитена до станции "Пушкинская" стало реальностью. Моментально последовала реакция властей: "изъяты из обращения" весьма удобные для минчан автобусные маршруты NN 14, 31 и 60, троллейбусные — NN 23 и 57. Зато законопослушные граждане теперь могут вновь вдвое увеличить поступления в городскую казну, добираясь до "Пушкинской" чем Бог пошлет, а затем "ныряя" под землю! Естественно, не "на халяву".

Да простит меня читатель за жаргон, но уж, как говорится, с кем поведешься... Ведь наше государство-грабитель, как видим, не особенно стесняется не только в выражениях. Вопрос только в том, что оно еще придумает для беспардонного обирания народа и доколе это будет продолжаться?

**Владимир ЗВЕРНИК, заместитель председателя Партии здравого смысла.**

*Генадзь БУРАЎКІН*

# З новых вершаў

### Дзяржаўныя далакопы

Рыдлёўкі ў вас не затупіліся.
І вы на працягу гадоў
За сваякоў не заступіліся,
За мерцвякоў —
Напагатоў.
Закопваць труны не стаміліся.
З каварнай спрытнасцю зямной
На ўсякі выпадак стаіліся
У балбатлівых за спіной.
Вас не кранулі,
Не сурочылі
У дні адліг і халадоў
Ні слёзы горкія сірочыя,
Ні гучныя праклёны ўдоў.
Да ўцех вы засталіся ласымі,
Нахабнікі
І піякі.
Вось толькі брыджы,
Што з лампасамі,
Схавалі ў цёмныя куткі.
Ды не схаваць вам
Ваша зондэрства,
Каб нават змёў усё патоп...
І на зямлі пакутнай знойдзецца
Для вас таксама далакоп.

### Папытайце Філарэта

Як у нас бывае гэта,
Як людзей мяняе свет,
Папытайце Філарэта.
Вам раскажа Філарэт.
Сан шануючы ягоны,
Не пакепвайце з таго,
Як дзяржаўныя персоны
Уцякалі ад яго,
Як партыйныя падлізы,
Несучы на твары жах,
Адбягалі ўбок ад рызы
І свяшчэннага крыжа.
Гэта ўсё не толькі модна —
Было выгадна,
Калі
Чорны опіум народны
Выкрывалі і клялі.
А цяпер парыў інакшы
Зачмурае галаву.
І былыя слугі нашы
Папягнуліся ў царкву,
Бо яны і ў часе гэтым
Вельмі хочуць цараваць
І ўладыку Філарэту
Лезуць рукі цалаваць.
Беражна трымаюць свечкі.
Не хаваючы слязы,
Быццам божыя авечкі,
Тупаюць пад абразы.
І ківаюць галавою.
І ўзнімаюць вочы ўверх.
І яны цяпер з царквою
Неразлучныя навек...
Ну а як завецца гэта,
Дзе тут Новы Запавет, —
Папытайце Філарэта.
Можа, скажа Філарэт...

### Дубаломы

Ясна і старому,
І малому:
Мала справы там,
Дзе многа слоў.
Гэта ж трэба —
Колькі дубаломаў
У краіне нашай нарасло!

Колькі іх прабілася да цэнтра,
Заняло зацішныя куткі —
Важныя,
Салідныя дацэнты,
Перспектыўных фірм кіраўнікі...

З першых крокаў пачалі самохаць
Усчынаць свой палітычны гік,
Пагражаць,
Злавацца
І палохаць,
Вінаваціць у бядзе другіх.

Ворагаў шукаюць патаемных
І паціху пад сябе грабуць.
Не прамовы —
Палкія паэмы
Дэкламуюць горача з трыбун.

А карысці —
Як з казла смятаны.
І не бачна светлай паласы —
Ні прысмакаў,
Ні гарэлкі таннай,
Ні любімай іхняй каўбасы.

Што чакаць ад хітрых пустамеляў?
Спадзявацца на такіх —
Дарма.
Акрамя захопленых партфеляў,
За душой нічога ў іх няма.

І калі мы іх турнём ад тронаў
(Ну няўжо
ж да скону
прамаўчым?),
У раённых гэтых цыцэронаў
Апраўдацца і не будзе чым.

# Дзяржава забрала маю кроў

Ні адно ведамства не адказала на маё пытанне, нават з Вярхоўнага Савета і з канторы прэзідэнта не дачакаўся тлумачэння з мінулага года (1994).

А пытанне маё выклікана недарэчнасцю "інструкцыі" аб прыватызацыі жылля, у прыватнасці, аб кватэрах, атрыманых як кампенсацыя за страчанае — па волі ўлад — асабістае жыллё, напрыклад, за знесены на патрэбы горада прыватны дом. У гэтым выпадку пошліна за прыватызацыю "кампенсаванай" кватэры не патрабуецца.

Але ж у нашым жыцці былі (і ёсць) паскудныя выпадкі, калі ўлады знішчалі бацькоў, а дзяцей "выхоўвалі" ў інтэрнатах. Потым мясцовыя ўлады былі абавязаны ці зберагчы родны дом дзяржвыхаванца, ці без чаргі забяспечыць яго кватэрай. Няшмат "дзяржвыхаванцаў" дамагліся свайго права, але здаралася, атрымлівалі кватэру як кампенсацыю за страчаны бацькоўскі дом і цяпер, калі хочуць прыватызаваць, павінны выкупляць. У гараблвыканкаме і пракуратурах спасылаюцца на закон, быццам там пра такую кампенсацыю нічога не агаворана. З Мінска наогул нічога ці не хочуць, ці не могуць адказаць. Справа не ў грашах. Грошы чалавек аддаў. А за што? Гэта ж паскудства! Дзяржаўнае паскудства!

Памятаю (калісьці ў КДБ патрабавалі, каб не памятаў), як у вайну ў падлеткаў, сірот-дзетдомаўцаў, працаўладкаваных на ваенныя прадпрыемствы, бралі кроў для шпіталя, маўляў, павінны аддаваць доўг дзяржаве за выхаванне, маўляў, каб не Савецкая ўлада, дык памерлі б, пакінутыя збегшымі кудысьці бацькамі. І толькі ў 50-х гадах сталі даведвацца, куды "збягалі" бацькі. Тады, пры зручным выпадку на сходзе я "ўспомніў" пра падлеткавую кроў у ваенным тыле. Мяне абвінавацілі ў паклёпе на Савецкую ўладу, забралі ў КДБ.

Добра, што ў Чырвоным Крыжы знайшоўся добрасумленны чалавек і адшукаў маё прозвішча ў адпаведным архіве (праўда, год нараджэння быў пакалечаны, і вінаваціць дактароў ніяк нельга). Тады замест турмы я атрымаў пасведчанне "Ганаровы донар СССР", а потым стаў добраахвотным донарам і атрымаў другі знак ганаровага донара.

Цяпер прыціснула ўзроставая хвароба, але 50-працэнтная скідка ад кошту лекаў не дзейнічае, таму што патрэбныя лекі ёсць толькі ў камерцыйных аптэках. І зноў жа, справа не ў гэтых "дохлых" "зайцах", а ў фарысействе закона. Ну, не пішыце, заканадаўцы, тое, чаго выканаць не можаце, ці прынцыпова не хоча выканаўчая ўлада. Цяпер бачна, што "вертыкаль" прынцыпова-здзекліва скажае непажаданыя ёй часткі законаў, каб "даказаць" будучым выбаршчыкам, упэўніць іх у непатрэбнасці Вярхоўнага Савета ці каб "галасілі" толькі за "вертыкальных" кандыдатаў, каб "добраахвотна абралі" таталітарны хамут.

**Міхаіл ШАЎЦОЎ.**

Падпісваюся дзетдомаўскім прозвішчам. У 1967 г. я дамогся пашпарта на бацькоўскае прозвішча, калі даведаўся пра яго. Быў я Шаўцоў Міхаіл Аляксеевіч, запісаны быў круглым сіратой, у дзіцячым доме з 1930 па 1943 год.

**Судьбы**

# Бежала девочка с Пинеги

**— Было два часа ночи, — вспоминает баба Шура. — Мы с мамой услышали стук в дверь. Открыли, в хату вошли секретарь сельсовета Миша Пархимович и двое неизвестных. Первый вопрос к маме — где отец и мой старший брат Александр. Мама ответила, что отец в ночном, а сын — в Слуцке на курсах бухгалтеров по направлению колхоза. Вскоре те двое на машине уехали — искать с понятыми отца в лесу. К утру возвратились. Как помню, отец снял мокрые от росы лапти, переобулся в сапоги, попрощался с нами. И его увели. В ту же ночь взяли и брата, их обоих посадили в подвал бывшего коммерческого училища. Мы с мамой туда передачу носили. А позже и нам сказали, чтобы собирались на высылку. Дали две недели сроку.**

В свой деревенский дом Александра Иосифовна Москвина — в Борках ее зовут бабой Шурой — обычно возвращается в начале апреля. На зиму уезжает к дочери в Минск.

Как ни хорошо у дочери, в тепле и достатке, а в деревне, считает баба Шура, лучше. И когда возвращается в настывший за долгую зиму дом, первым делом топит печь, потом идет на кладбище — проведать могилу мужа. Почти четыре года провел он в фашистском плену, куда попал под Белостоком в первый день войны. Рубил уголь на шахтах Рура — и подорвал здоровье, умер еще не старым человеком.

Кроме старшей сестры Надежды, тоже вдовы, не осталось у бабы Шуры в деревне родни. С отцом и матерью она рассталась шестьдесят лет назад при не совсем типичных для тех времен обстоятельствах, порожденных сталинскими репрессиями против крестьянства.

Иосиф Иванович и Мария Иосифовна Жавриды, ее родители, одними из первых в Борках вступили в колхоз. За год до того здесь прокатилась первая волна "раскулачивания", унесшая на Север шесть семей — каждую пятую.

Спустя шесть лет о той смутной поре стали уж как-то забывать. Но в 1935 году по многим деревням Случчины прошла вторая волна гонений — уже на колхозников. Стали выискивать среди них "социально опасный элемент". Отец Александры Иосифовны был, к несчастью, верующим человеком, читал Библию, соблюдал посты и отмечал в кругу семьи религиозные праздники. Вот это и не нравилось атеистам из числа местного "актива".

Беда пришла в семью в одну из теплых июльских ночей, когда Иосиф Иванович был с колхозными лошадьми в ночном — он к тому времени работал конюхом.

— Было два часа ночи, — вспоминает баба Шура. — Мы с мамой услышали стук в дверь. Открыли, в хату вошли секретарь сельсовета Миша Пархимович и двое неизвестных. Первый вопрос к маме — где отец и мой стэший брат Александр. Мама ответила, что отец в ночном, а сын — в Слуцке на курсах бухгалтеров по направлению колхоза. Вскоре те двое на машине уехали — искать с понятыми отца в лесу. К утру возвратились. Как помню, отец снял мокрые от росы лапти, переобулся в сапоги, попрощался с нами. И его увели. В ту же ночь взяли и брата, их обоих посадили в подвал бывшего коммерческого училища. Мы с мамой туда передачу носили. А позже и нам сказали, чтобы собирались на высылку. Дали две недели сроку.

И вот подогнали ко двору подводы. Собрались женщины-соседки. Мужчин не видно было — боялись. Все плакали, прощаясь с нами. В Слуцке мы встретились с отцом и братом. Нас отвезли на железнодорожную станцию, загнали в вагон-телятник. Таких, как мы, семей набралось не меньше пятидесяти. В пути никого из вагонов конвойные не выпускали. Спали на нарах, по нужде ходили в угол вагона, где в полу была прорублена небольшая дыра, завешенная крестьянскими постилками. С нами ехала еще одна семья из Борок — Константина Кунцевича. Его самого тоже раньше арестовали, а жену Надю, сыновей Александра, Михаила, дочь Анюту, мою ровесницу, загнали в один с нами вагон. В Архангельск приехали в начале августа. Всех погрузили на пароход — и поплыли вверх по реке, за двести километров. Разразилась страшная гроза, пароход стало раскачивать, среди пассажиров-переселенцев поднялась паника. А мама все успокаивала меня, приговаривая: "Не бойся, доченька, чему бывать — того не миновать, на все воля Божья". Обошлось тогда. Затем мы пересели на другой пароход, который вошел в реку Пинегу и по ней отмерили еще восемьсот километров, пока доплыли до места выгрузки. Оттуда на подводах по глухим проселочным дорогам среди дремучей тайги добрались до деревни Луков Ручей.

Увидели низкие дощатые бараки, в которых ютилось несколько сот семей, прибывших еще при первом раскулачивании в 1929 году. Как сегодня, помню опухших от голода старух, детишек, вышедших навстречу к нам с протянутыми ручонками — просить хлебушка. У нас было кое-что из прихваченных из дому припасов — сухари, крупа, даже сало. Ими мы делились с жителями бараков, пока сами не стали нуждаться в помощи.

Отца и брата отправили на лесоповал, мать и я остались в бараке. Мне шел пятнадцатый год. Вскоре я заболела скарлатиной. Болезнь дала осложнение на глаза. Жена коменданта поселка взяла меня к себе в качестве няньки для детей и прислуги. Я была в тепле, накормлена, кое-что с барского стола приносила украдкой и для больной мамы — она страдала ревматизмом с детства.

Так прошла зима. Со зрением у меня улучшения не было. И хозяйка посоветовала поехать к врачу-глазнику в Архангельск, выстаралась пропуск.

Но к врачу я не попала. Решила бежать совсем — очень соскучилась по своей деревне. Пошла на вокзал, купила билет на московский поезд. В купе ехал военный, с тремя кубиками на петлицах. Угощал меня купленной на полустанках малиной, расспрашивал, куда еду. И вдруг слышу из коридора вагона мужской голос: "Да вот она только что по перрону прохаживалась, в синем пальтишке, небольшого росточка". Я поняла — обо мне идет разговор, видно, следили. Тот военный заметил испуг на моем лице и, конечно, догадался, кто я такая. И сел так, что заслонил меня со стороны входных дверей. Какой-то мужчина заглянул в вагон, но меня не заметил.

Приехала-таки в Слуцк. А уже темнело. На ночь глядя пошла с вокзала в город. Переночевала у совсем незнакомых людей. Утром пошла к начальнику милиции, рассказала о себе, кто я и откуда приехала. А он мне говорит: "Немедленно уезжай отсюда за сто километров — здесь приграничная запретная зона. Чтобы и духу твоего, девочка, тут не было". Все же пожалел — не сообщил в местный НКВД.

Куда деваться, где жить? Вспомнила, что в деревне Глуша возле Бобруйска живет моя двоюродная сестра, Анна Митрофановна Адамович, мать известного белорусского писателя Алеся Адамовича. Работала она в сельской аптеке. Приняла меня тепло, по-родственному. Недели две прожила у нее. Но не хотела подвергать опасности тетку, тем более что ее близкие родственники также были сосланы на Север.

Поблагодарила за все — и в Бобруйск, к бывшему жителю нашей деревни Антосю Жавриду. Тот помог деньгами, но взять к себе на квартиру побоялся. Ну, думаю, была не была — возвращусь в Слуцк, пусть делают со мною что хотят, надоело по чужим углам скитаться и просить на прожитье, да еще с моими больными глазами.

И вот я снова у знакомого начальника милиции в кабинете под номером девять. Хозяин его вдруг говорит мне такое, что слезы ручьем полились из глаз: "Ваших, Жаврид, родителей выслали на Север по ошибке, должны были взять другую семью под такой фамилией. Если за вас кто-либо поручится, можете оставаться жить в приграничной зоне".

У родной сестры Нади в Борках я жить не захотела. Ее муж к тому времени был уже председателем сельсовета. По совету односельчанки поехала в местечко Уречье Любанского района. Взяли меня там на поруки Наум Маркович и Анна Марковна Позины, местные евреи. Он работал аптекарем, она — зубным врачом. Позины оказались сердечными и внимательными людьми. Через них я познакомилась с Николаем Москвиным, офицером местного гарнизона. Я ему рассказала, что мои родители репрессированы, но это его не смутило, и мы вскоре поженились. Позины нам и свадьбу справили, помогли обустроиться с квартирой. Я их до конца дней своих не забуду, хотя и знаю, что в годы оккупации фашисты расстреляли их в гетто вместе с тысячами местечковых евреев.

Что было потом? Мужа перевели в гарнизон под Белостоком. Там нас и война застала. Его в первый же день ранило при бомбежке, и он попал в плен, а я с годовалой дочерью на попутных машинах добралась до своей деревни и жила у сестры до конца войны. Муж возвратился из плена в конце сорок пятого года. Мы с ним перевезли дом родителей — его использовали в колхозе под клуб. Деревенские помогли обустроиться, муж пошел работать бухгалтером в колхозе, я тоже всю жизнь трудилась и на ферме, и на полевых работах. Нагоревалась одна — не расскажешь.

Интересуюсь у Александры Иосифовны судьбой ее родителей.

— Мать умерла в тридцать девятом году и похоронена на Пинеге, отец пережил ее только на три года. Брат Александр воевал на фронте, был ранен и контужен. Тоже умер, похоронен в Архангельске. Только мы с Надей и доживаем здесь свой век.

...Почти сорок человек из деревни Борки стали в 30-е годы жертвами сталинских репрессий. Большинство их сгинуло бесследно. Некоторые из раскулаченных, больные и немощные, возвратились после войны, чтобы умереть на родной земле.

**Михаил ТЫЧИНА.**

г.Слуцк.



**Разное**

**Утерянное удостоверение ликвидатора последствий ЧАЭС серии Ш XI № 729042 считать недействительным.**

